№ 10

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь

выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрації і экспэдыції:
М. Стэфанская 23,

Цэна абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 10 (206). Год III. Вільня, 1 лютага 1918 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.

## 31 студня.

**Заходні тэатр:**

Баевая чыннасць аграніčвалась артылерыйскімі і мінными бітвамі ў розных часьцях фронту.

---

На Каляды і ў часі мес. студня варожые лятуны атакавалі ізноў аткрытые нямецкіе месты.

У адплату за гэта ў начы с 30 на 31. I. нямецкіе лятуны атакавалі Парыж і абсыпалі яго 14.000 кіл. бомб.

**Італьянскі тэатр:**

На заходні поўдзень ад Ас'яго італьянская атака адбіта агнём. Між Ас'яго і Брэнтай артылерыйская чыннасць была ажыўлена.

Число ўзятых аўстрыякамі палонных дайшло 15 афіцэраў і 660 салдатаў

---

БРЭСТ-ЛІТОЎСК. (В.Т.Б.). 30.I. Пад маршалкоўствам вялікага вэзыра, Талаат-Пашы, сягоньня адбылося агульнае заседаньне.

Троцкій заявіў, што два члены Украінскай народнай рэспублікі адгэтуль належаць да расейскай дэлегації. Украінскіе рады раб. і салд. па ўсей Украіне змагаюцца з украінскай радай і шмат дзе дайшлі пабеды. Донецкі басэйн, Кацерынаслаў і губэрні Харкоўская і Палтаўская — ў руках украінскіх рад рабочых і салд. Павага Кіеўскай рады ўсё болей паменшаецца. Гэтак мір, каторы будзе падпісан дэлегаціей украінскага сэкрэтарыату, ня можэ лічыцца мірам з Украінскай рэспублікай. Украінскіе рады раб. і салд. зусім згодлівы с пецярбурскім урадам. Гэтак устанаўліваецца фэдэрацыйны лад у Расейскай рэспубліцы. Калі п. Голубовіч ешчэ мае паўнамочча ад кіеўскага сэкрэтарыату, дык ён можэ далей прынімаць учасьце ў перэгаворах, але умова, падпісаная ім, можэ мець вагу толькі пасьля формальнага пацьверджэньня яе урадам расейскай рэспублікі.

Прэдстаўнік украінскай дэлегації у Брэст-Літоўску, п. Левіцкі, заявіў, што адказ на заяву Троцкага можэ быць дадзен толькі тады, як прыедзе сюды ўся украінская дэлегація.

Статс-сэкрэтар Кюльман ад імі саюзьнікаў прэдлажыў пачаць абмен думкамі аб заяве Троцкага толькі пасьля прыезду ўсей дэлегаціі украінскай рады.

Троцкій адказаў, што развязка пытаньня, каторая дэлегація мае права прамаўляць ад імі Украінскай рэспублікі, будзе залежаць ад ходу барацьбы між абедзьвымі організаціямі.

Граф Чэрнін прэдлажыў, не марнуючы часу, прыступіць да нарад у камісіі аб тэрыторыяльных пытаньнях.

ШТОКГОЛЬМ. Троцкій сказаў сваім прыяцелям, што яго тактыка у Брэст-Літоўску мае на мэці магчыма далей зацягіваць перэгаворы. Расейская дэлегація будзе вясьці пропаганду між насяленьнем цэнтральных дзержаў. Цэнтральные дзержавы тады сарвуць перэгаворы і народнае праклясьце падзе на іх. Іх народы за гэты час будуць даволі заагітованы, і гэта вызаве перэварот.

**Увага.** Пан Троцкій вельмі неасьцярожэн, публікуючы свае пляны. Раскрываючы свае карты, ён можэ дайсьці тэго, што у прыпадку неўдачы агульнае абурэньне звернецца проці яго самога.

ВЭРСАЛЬ. (Гавас). Клемансо, Льлёйд Джорж і Орляндо сабраліся на кофэрэнцію саюзнікаў, у каторай прынімаюць учасьце іх ваенные місіі.

ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А.). 20 казацкіх палкоў паўсталі проці Каледзіна і арэштавалі 19 членаў ваеннай організаціі.

ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А.). Фракція левых социал рэволюціонераў атрыла с Кіева вестку, што сэкрэтарыат украінскай рады выйшоў у адстаўку. Утворэн новы сэкрэтарыат с социал-рэволюцыонераў і большэвікоў. Делегаты украінскай рады у Брэст-Літоўску будуць заменены другімі.

БЭРЛІН. 31. I. Газэты апавешчаюць, што забастоўка ў Бэрліне паменшаецца.

Учора паабедзі шмат хто з баставаўшых перад абедам вярнуўся да работы.

ГААГА. Весткі аб забастоўцы ў Бэрліне вызвалі ў Лёндоне вялікую радасць. Былі выпушчэны экстрэные тэлеграмы з надпісамі: „Развал цэнтральных дзержаў“.

ВЭРСАЛЬ (Гавас). Клемансо, Льлёйд Джордж і Орляндо сабраліся на конфэрэнцію саюзьнікаў, у каторай прынімаюць учасьце іх ваенные місіі.

КОПЭНГАГА. Новы міністэрпрэзыдэнт, социал-дэмократ Маннэ, у Гэльсінгфорсе заявіў, што Фінляндзія маніцца жыць у згодзі з усімі сваімі сусецэямі, і ўнутрэные пляны будуць праведзены, ня гледзячы на пратэсты буржуяў, апор каторых будзе зломлен навіт аружнай сілай.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Нямецкіе падводные лодкі ізноў затапілі ў Сяродземным моры 19.000 тонн.

ЛОНДОН. (**Урадова**). У часі апошняга нямецкага налёту забіты 14 мужчын, 27 жанок і 16 дзяцей, ранены 93 мужчыны, 59 жанок і 17 дзяцей.

---

## Мірные перэгаворы.

БРЭСТ-ЛІТОУСК (В.Т.Б.). 29.I. Учора прыехалі граф Чэрнін са сьвітай, Кюльман са сьвітай, вялікі вэзыр Талаат-Паша са сьвітай і часць боўгарскай дэлегації. Сягоньня раніцай прыехаў Троцкій. На просьбу расейцаў сягоньняшняе заседаньне палітычнай камісіі адложэно на заўтра.

ШТОКГОЛЬМ. Газэта Горкага «Новая Жизнь» пішэ, што ў Брэст паедуць дэлегаты ад Бэссарабіі, Туркестану, Донскай обласьці і Пэрсіі.

ПЕЦЯРБУРГ. Перад выездам у Брэст-Літоўск Троцкій здаў з'езду рад раб. і салд. у Пецярбурзі справу аб мірных перэгаворах. Троцкій сумлеваецца, каб удалося дайсьці угоды, бо цэнтральные дзержавы маюць капіталістычные мэты і нічым ня рожняцца ад Вільсона і Ллёйда Джорджа.

У Пецярбурзі лічаць магчымым, што перэгаворы будуць сарваны і што Троцкаму удасцца вызваць у цэнтральных дзержавах работніцкі рух супроць сваіх урадаў.

Газэта Максіма Горкага выгаварывае Троцкаму, што гэткую важную справу, як мір, ён звязывае са сваімі партыйнымі мэтамі.

---

## „Беларусь за Познаншчыну“.

Нідаўна «Dziennik Polski» (у № 20 з 20. I. 1918) выкрыў дужа цікавы плян абмена Беларусі на Познаншчыну.

Плян гэты улажыў вядомы нямецкі нацыоналіст — праф. Рорбах, каторы да апошніх часаў быў вялікім прыяцелем палякоў, а цяпер запісаўся ў члены нямецка-літоўскага таварыства ў Бэрліне. Праф. Рорбах суліць Польшчы занятые немцамі Беларускіе землі за тое, каб палякі зракліся назаўсёды Познаншчыны,—значыць, тэй польскай зямлі, якая належыць цяпер да Нямецкай дзержавы.

Здаецца, што часьці польскіх палітыкаў, а ў тым ліку і кіраўніком новага польскага ураду гэты плян вельмі спадабаўся. Аб гэтым можна судзіць з друкаванага ўжо ў нас выступленьня ў Бэрліне польскага прэм'ер-міністра Кухажэўскага і начальніка палітычнага аддзелу, графа Роствароўскага. Цяпер жэ „Dziennik Polski“ ізноў вертаецца да справы захвату Беларускіх зямель, кажучы даслоўна:

«Без усходніх акраін Польская дзержава будзе пародіей гасударства, пазбаўленай усіх варункаў для жыцьця. Царство Польскае і Галічына маюць лішне многа насяленьня: больш 100 жыхароў на кв. кіл. (=1 кв. вярсту). У цяперашніх граніцах мы задохнемся; каб жыць і развівацца, мы павінны утварыць гасударственую звязь з рэдзей населёнымі абшарамі: мы будзем ім даваць уселякую рабочую сілу і вырабы нашай прамышленасьці; яны нам — сырые матэр'ялы і варштаты дзеля працы».

Шчыра і ясна! «Варштаты працы» ў нашым Краю, дзе прамышленае развіцьце—вельмі слабое, гэта—земля. І праўда тое, што ў нас народ жыве менш густа, чым у Польшчы. Але праўда і тое, што будучына нашага народу апіраецца якраз на тых запасах зямлі, аб каторых польская газэта гаворыць, як аб «варштатах» дзеля працы для лішку польскага насяленьня Польшчы.

Трэба адзначыць, што і ў польскім грамадзянстве ўжо чутны галасы проці надобных плянаў: сам «Dziennik Polski» жаліцца, што некаторые газэты, як напр. Кракаўская «Głos Narodu» «не разумеюць» карысьці абмена Познаншчыны на Беларусь. І мы думаем, што лепшая і цьвярозая часць польскага народу зусім зразумее і аднясецца спагадліва да становішча ў гэтай справе беларусаў, прынятых на Конфэрэнціі ў Вільні 25, 26 і 27 студня 1918 году такую рэзолюцію:

»Конфэрэнція пратэстуе проці дамаганьня палякоў прылучыць да Польшчы Беларускіе землі — або хаця-бы часць іх (Беласточчыну ці інш.) і проці ўселякіх іншых плянаў торгу Беларускай зямлёй, скуль-бы яны ні выходзілі. Конфэрэнція пераконана, што галеньне польскіх паноў і польскага ураду на Беларусь, каб паняволіць Беларускі народ і захапіць беларускую зямлю для польскай колонізації, будзе з агідай спаткано ўсім цывілізованым сьветам».

*І. Мелешка.*

---

## Абвешчэньне незалежнасьці Беларусі.

У нямецкай сацыалістычнай газэці „Vorwärts“ сёлета 27 сьнежня надрукавана гэткая вестка:

«Бальшэвікі разагналі Беларускі Народны з'езд, каторы быў заняты сазывам свайго устаноўчага сэйму. Троцкі гэтак атказаў ген. Гофману на яго закід у Брэст-Літоўску аб разгоне.

«Беларускі Народны з'езд складаўся с прэдстаўнікаў беларускіх

ў рукі гасударства — да фундушаў грамадзкай апекі.

ГЭЛЬСІНГФОРС, (Гавас). Фінляндзкіе большэвікі с падмогай матросаў распусьцілі фінляндзкі сэнат, каторы пратэставаў проці большэвіцкіх войск, мешаўшыхся ў унутрэные справы Фінляндзіі. Прэзыдэнта сэнату арэштавалі. Саюз матросаў зажадаў, каб сэнат выдаў эружжэ грамадзкай міліціі і аддаў яго чырвонай гвардзіі.

С-паміж газэт выходзяць толькі органы чырвонай гвардзіі.

ШТОКГОЛЬМ (П.Т.А). У Фінляндзіі апавешчэна пролетарская рэволюція. Социалістычны камітэт выпусьціў заяву, што ўласць уся пераходзіць у рукі работнікаў. Аружжэ можэ насіць толькі «чырвоная гвардзія». Члены «белай гвардзіі» і салдаты арэштованы.

ШТОКГОЛЬМ. „Чырвоная гвардзія“ ў Фінляндзіі узмацована расейскімі салдатамі. Большэвікі занялі Гэльсінгфорс.

Цэнтральная рада будзе складацца с 35 членаў. У яе руках да-часу будзе ўсё упраўленьне Фінляндзіей

**Заява шляхты Эстляндзіі і Ліфляндзіі.**

Трое прэдстаўнікаў эстляндзкай і ліфляндзкай шляхты падалі прэдстаўніку Расеі у Штокгольме заяву, ў каторай між іншым гаворыцца:

„Законнае прэдстаўніство краю заяўляе, што Эстляндзія і Ліфляндзія — незалежны і могуць рабіць умову з другімі старонкамі. Чысьленые гвалты рэспубліканскага ураду Расеі прымушаюць прэднікаў краю звярнуцца заграніцу с просьбай аб зашчыту і забаспечэньне законнасьці. З гэтай прычыны шляхта Эстляндзіі і Ліфляндзіі пастанавіла прасіць аб помач Нямецкую дзержаву.

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## Нямецкіе апавешчэньня:

**29.І. Заходні тэатр:**

*Фронт нямецкага Насьледніка:* Набапал дарогі С. Ілер — С. Супле адкінуты наступленьня французаў. Нашы пазыціі ля дарог с Сом-Піу і з Ріпон былі востра абстрэліваны, а пасьля сільная пяхота ворагаў у некалькіх мейсцох наступала на наш фронт. Яна адкінута часьцю агнём, часьцю штыкамі. Мы здабылі некалькі агнемётаў.

За апошніе два месяцы узяты цэнтральнымі дзержавамі 45.000 палонных, 243 гарматы, 1.000 кулемётаў, 65 мінамётаў. Згодне з апавешчэньнямі варожых глаўных кватэр ворагі за гэты самы час узялі 5.401 палонных, 11 гармат, 204 кулемёты, 8 мінамётаў.

---

Учора мы збілі 13 самалётаў і 1 прывязны лятучы шар. Лёндон і Шырнес абкіданы бамбамі.

**Італьянскі тэатр.**

На плоскагорыі Сямі Грамад узняліся вострые бітвы. Італьянцы атакавалі адрэзак на ўсходзі ад Ас'яго да Брэнты. Блізка скрозь яны былі адкінуты ўжо агнём. Монтэ ді Фальбэльля яны на момэнт захапілі ў свае рукі, але контратакаю былі адбіты. У ваколіцах Коль дэль Россо і між ярам Фрэнцэльля і Брэнтай штурмаваўшые ворагі адкінуты пасьля вострай бітвы. Узяты ў палон 10 афіцэраў і 350 салдатаў.

Нашы лятучые эскадры атакавалі ў начы з 26 на 27 студня Кастэль Фран дэ Трэвізо і Мэстрэ і скінулі на іх 21.000 кіл. бомб. Здалёк былі відаць вялікіе пажары.

**30.І. Заходні тэатр:**

У розных пунктах на фронці артылерыйская і мінамётная бітва.

---

Нашы лятуны зрабілі налёты на Англію і паўночнае узбярэжжэ Францыі, Лондон, Саўзэнд, Дюн-Кірхэн, Грэўлін і Кале абкіданы бомбамі. У бітвах на паветры мы збілі ўчора 8 варожых самалётаў і 2 прывязные лятучые шары.

**Італьянскі тэатр.**

На плоскагорыі Ас'яго італьянцы далей штурмавалі вялікімі сіламі. Пасьля упорных бітв Монтэ ді Фаль Бэльля і Коль дэль Россо асталіся ў варожых руках.

---

## КАЛЯ ВАЙНЫ.

**За год падводнай вайны:**

29 студня мінуў год неаграніченай падводнай вайны. За гэты час затоплено каля 9,6 мільёнаў тонн, або 27,2 мільёнаў кубічных мэтраў, або аб'ём 960 000 таварных вагонаў.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Нямецкіе падводные лодкі ізноў затапілі 18.000 тонн.

БЭРЛІН (В.ТБ.). У Сяродземным моры нямецкіе падводные лодкі ізноў затапілі 8 параходаў і 3 парусьнікі ёмкасьцю разам 30,000 тонн.

# Аб усім па троху.

Аўстрыяцкае ваеннае упраўленьне ў Сэрбіі забараніло ужываць „кірыліцу“ і загадало ужываць толькі „лацініку“. Гэтак спорка між дзьвемя часьцямі сэрбскага народу: сэрбамі і хорватамі —прынамсі да-часу развязана ў мысль хорватаў.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман» Рэдактар Язэп Салавей